Ryhor Baradulin

# DITTICO ROMANO
## Commozioni

*a Giovanni Paolo II*

Con l'edizione di questo libro
la Parrocchia dei ss. Protomartiri Romani
esprime la gratitudine
al noto poeta bielorusso Ryhor Baradulin
il quale durante il suo pellegrinaggio a Roma
da Giovanni Paolo II nel giugno 2004
ha incontrato anche il gruppo dei bambini bielorussi,
ospiti della Parrocchia

## ДЗЯКУЙ УСЯВЫШНЯМУ!

*Мне выпала адказнае шчасьце перакласьці на беларускую мову «Рымскі трыпціх» Яна Паўла ІІ. Да 25-годзьдзя пантыфікату Папы пераклад быў выдадзены невялікім накладам пры дапамозе Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.*

*Клопатам Апостальскага візытатара для беларускіх грэка-католікаў архімандрыта Сяргея Гаека мне падоліла зрабіць пілігрымку ў Вечны Горад, наведаць галоўныя базылікі, катакомбы, у якіх маліліся першыя хрысьціяне, а таксама беларускую рэдакцыю Ватыканскага радыё.*

*28 чэрвеня 2004 г. напярэдадні Сьвята апосталаў Пятра і Паўла Сьвяты Айцец Ян Павал ІІ прыняў нас на асабістай аўдыенцыі ў Ватыкане. Я перадаў Сьвятому Айцу пераклад «Рымскага трыпціху» і прасіў у Папы Апостальскага блаславеньня для ўсіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія працуюць на разьвіццё беларускай хрысьціянскай культуры, працуюць на адраджэньне Беларусі.*

*Сьвяты Айцец паклаў на мае рукі сваё блаславеньне, прыняў пераклад і падараваў мне асьвечаны ружанец.*

*Варта было жыць, каб дапасьці душой да незвычайнай паэзіі Яна Паўла ІІ, бо гэта размова зь Вечнасьцю, са Словам, гэта прачытаньне Вечнай Кнігі сьвятой душой.*

*Тое, што я адзін свой зямны дзень буду бачыць і чуць Сьвятога Айца, і ў велікодным сьне не марыў прысьніць. А тут — гаварыць з Рымскім Папам Янам Паўлам ІІ, цалаваць яго пярсьцёнак.*

*Гэта дар Усявышняга. Гаварыў я з Папам па-беларуску, і ён добра разумеў нашую мову. Апамятаўшыся ад шчасьця, я ня ведаў, чым маю адзьдзячыць Ягонай Сьвятасці. Апостальскі візытатар для беларускіх грэка-католікаў архімандрыт Сяргей Гаек параіў напісаць «Рымскі дыпціх». І я закончыў дыпціх у мамінай хаце ў Вушачы і даў яму назву «Узрушэньне».*

ДЗЯКУЙ УСЯВЫШНЯМУ!

# Д О Ш К А   В Ы Р А Т А В А Н Ь Н Я

*Jezus Chrystus jest jedyn№ desk№*
*ratunku dla dzisiejszego њwiata.*
Ян Павал II

Хай празарлівая воля нябёс
Душам пашле дараваньне.
Ў небе ўрагану
Ўваскрослы Хрыстос —
Дошка выратаваньня.

Госпад дазволіў на дошцы плысьці,
Маючы ветразем веру.
Дно не дастаць у прадонным жыцьці
Ломкім шастом намеру.

Сьцежкаю думкі, дарогай хады,
Ветрам дыханьня жывога
Вечныя нашы й зямныя гады
Рушаць да Пана Бога.

Крыжам аслонены сьвеньціцца лёс
Радасьцю райскага раньня.
Ў моры адчаю
Сьветлы Хрыстос —
Зорка выратаваньня.



На аудыенцыі ў Яго Сьвятасьці Яна Паўла II у Ватыкане
28 чэрвеня 2004 года

# I

* * *

Укленчыць і прыпасьці да рукі,
Якая сьвет мудрэць дабраслаўляе.
Адчуць, як ціхамірацца вякі,
Як у душы зьняможанай сьвітае.

Прыняць ружанец з дарчае рукі —
Замроеныя пацеркі Сусьвету.
Пачуць сустрэчы голас трапяткі
Ўваскрэслы сьветла
Ў словах Запавету.

Сьцяжынай з-пад ускрыленай рукі
Ісьці, ані зважаючы на стому,
Да маладой нябеснае ракі,
Якая смутак і ўзьнясе на строму.

Бо багавейна нагадалі ксты,
Што недасяжна блізкі Дух Сьвяты.

* * *

Качае словы, быццам камяні,
А не таму, што падупаў гадамі.
Адзін ён чуе Голас вышыні
І думкі небакрылыя гайдае.

Ён бачыць нам нябачныя сьляды.
Ён Голас слухае душою нашчай.
Уся зямля —
Суцэльныя клады,
А мы яе вялічым хатай нашай.

Ён нашыя адмольвае грахі
У Звышняга.
І воляй незямною
Зло хоча супыніць,
Ды люд глухі
І дзякуй не сказаў
Дагэтуль Ною.

Сагрэты сном сусьветных завірух
У ім з’аблічваецца вышні дух.

* * *

Калодзежы сьвятла,
Як нашы вочы —
Калодзежы зьняверанага тла —
Глядзяць у глыбіню
І па-сірочы
Чакаюць абяцанага сьвятла.

Яна халодная,
Зямля сырая,
— Надзейны схоў ад мітусьні зямной,
У вечную ўсыпальню забірае
Труну душы,
Спавітую маной,

Спавітую наіўным спадзяваньнем,
Што цень жывы
Свой цень перажыве.
Усе мы на зямлі самохаць вянем,
Зайздросьцім вечна маладой траве.

Здаецца, нашы цені ўжо былі
У катакомбах — зьвілінах зямлі.

* * *

Крыж — вольны птах
Застыглы на імгненьне,
Каб пераняць разнасьцежанасьць рук.
Цьвікі напоўняць болем кожны рух.
Саломай пераломіцца праменьне.

Паразумецца сподзеў і спакора
Пасьпеюць,
Быццам ядры спарыша.
І адляціць у немаведзь душа,
І захлыне мальбу людзкое мора.

І ўдалеч павандруюць небасьхілы,
І хмарамі прыкінуцца сьнягі,
І ад зьнячэўнай роспачы й тугі
У птаха ціха анямеюць крылы.

Каб забыцьцё ня ведала мяжы,
Жагнаюць неба смутныя крыжы.

* * *

Сабе самому любіць сон прысьніцца.
Ня хочацца настрою быць старым.
Як воклічы,
Ўзьляцелі камяніцы,
Нябёсы ў зьдзіве выдыхнулі:
— Рым!

Тут Вечнасць прыдрамала на хвіліну.
Ўсяму жывому трэба перадых.
Спакою цяжка вырвацца з нахлыну
Гадоў і парываньняў маладых.

Зялёным сном пазасыналі стоды,
І Тыбр прыручаны пазелянеў.
Наблізіцца да ранішняй лагоды
Ня мае сьмеласьці ўначэлы гнеў.

Ратунак нашых душ, як пілігрым,
Шляхамі выраяў імкнецца ў Рым.

* * *

Белакрылы анёл
І анёл чарнакрылы.
Белакрылая чайка
І чарнакрылы кажан.
Дні відушчым сьвятлом
Маладзяць небасьхілы.
Ночы змрокам сьляпым
Смутак зводзяць у зман.

Ад святла аддзяліў
Усявышні цямрэчу,
Надзяліў мілатой
Нашых воч прамяні.
І сьпяшаецца час
З досьвіткам на сустрэчу.
І хапае для зор
І для дум вышыні.

Белата з чарнатой
Узаемна жывыя.
Рэха збытлівых мрой
Б’ецца памяці ў скронь.
Завіруха рашучасьці
Ўзрушана вые.
Чым чарнейшая ноч,
Тым зырчэйшы агонь.

Прагне ўсё, што расьце,
Перш чым станецца тлом,
Як даўжэй быць аблашчаным
Ціхім сьвятлом.

* * *

Памаўчаць са здарожаным смуткам разам
Ля ўсыпальні пакутніка Езафата,
Адчуваючы, што незавершаным сказам
Замаўкаць пачынае жыцьцёвае сьвята.

Так, жыцьцё — гэта сьвята
Здаровага цела
І душы несуцешнай дасконная праца.
Ты наважыўся жыць,
А жыцьцё праляцела.
Хоць успомніць сябе хочацца пастарацца.

Радасьць мёртвая,
Толькі пакуты жывыя.
Вечнасьць вечная
Толькі сваім нябытам.
Праплываюць высока аблокі сівыя —
Сны сасьнёныя глыбіннадумным блакітам.

Толькі вера трываліць душу на пакуты.
Голас вернасьці верыць,
Што будзе пачуты...

# II

* * *

Высока ў небе слова птушкам лёсу.
Глыбока ў моры слова рыбам плёну.
Раздольна ў полі слова ветру славы.
Прароча ў ночы слова зоркам сноў.
Што не збылося, ўсё пераплялося.
А што збылося, шле хвалу палону,
Бо ў самаіснасьці палон ласкавы.
Наноў пачнецца сьвет
Са Слова зноў.

* * *

І неўміручы памірае,
Каб уваскрэснуць.
Жыцьцядар
Яму пялегваць давярае
Ў далонях
Зорнай жарсьці жар.

І покуль жар незадзіманы
Сузорыцца,
Жывы жыве.
Гараць вякам Хрыстовы раны.
Студзіць іх
Сум здалёк плыве...

* * *

Крыж і якар
На сьцяне ўсыпальні.
Прыляцелі душы на спачын.
Клопатаў зямных
Чаўны прысталі.
Толькі жалю жураўліны клін

У нябёсах зморaных курлыча.
А ў настылай цішыні дарма
Немата забыты голас кліча,
Бо ня чуе ўжо сябе сама.

А пад сонцам
З мудрымі вякамі
Ані нагаворацца вятры.
І крыжы пасталі ветракамі.
Разьвінаюць крылы якары.

І крыжы, і якары на волі
Па сваіх памкненьнях сваякі.

І зьгінаюцца рукою долі
Ў дрэва росту ломкія сукі...

* * *

*Канец такі ж небясьпечны, як і пачатак.*
Ян Павал II

Пачатак нецярплівы, трапяткі,
Яму хутчэй адбыцца нецярпіцца.
Крыніца, каб зьнямозе даць напіцца,
Сьпяшаецца прабіцца празь пяскі.
У дзюбах чорны сум нясуць крукі.
Жывіць сасну ня томіцца жывіца.
Завязвае развага вузялкі.
Дым думае, як пад аблокі ўзьвіцца.

Канец спакойны, хочацца яму
Перахітрыць няўмольную куму
І ля цяпельца кайнасьці пагрэцца.
Час пасьвіць незьлічоных дзён гурму.
Няспыннасьць, пэўна ведае, чаму
Канцу з пачаткам новым не сустрэцца.

* * *

Як ішоў малады Хрыстос,
На зямлі ўсё жывое ня спала.
Не сьпяшаўся зьдзейсьніцца лёс.
Гамана цішэла падтала.

Як на Млечным Шляху,
Сьляды
На зьнямелым пяску гарэлі.
Адступаліся халады
І зямныя грахі старэлі.

# У З Р У Ш Э Н Ь Н Е

Дзе ступаў,
Там сьвятло расло.
Дзе стаяў,
Сьмялела лагода.
Усьміхацца вучылася зло.
Быць шчасьлівай хацела нагода.

На зямлю сыйшоў назаўжды,
Каб наблізіць вечныя далі.

І сьвятыя Хрыстовы сьляды
Душы верніцкія захавалі...

* * *

Адразу з горада вечнага ў горад спаконны,
Дзе цягнуцца ў неба сумныя гмахі соснаў,
Да цябе прыйшоў я з паклонам,
Мама.
Ва ўсіх урачыстых бажніцах
Маліў Усявышняга,
Каб душы тваёй паслаў супакой,
...Ты несла мяне да ксяндза,
Гнанага бязбожнай уладай.
Касьцёлам трывожным было
Вушацкае наша неба.

І пасланы лёсам сьвятар
Сьвятлом сьвятога крыжа
Багаславіў мяне на дарогу ў Рым.
...І вярнуўся я зь пілігрымкі,
Каб падзякаваць, мама, табе
І вушацкаму роднаму небу.

Словы, якія пачуў я
Ад Айца Сьвяцейшага ў Рыме,
Перакажу табе
Пры сустрэчы...

* * *

Можа зь Беларусі гусі шэрыя
Рым уратавалі.
І таму так
На зьмярканні потайна вячэрае
Лустай поўні
Пілігрымскі смутак.

І нашчадкі тых гусей далёкія
Ў вырай рупяцца
Над нашым краем.
Думкі зьвечарэлымі аблокамі
Ўсьлед плывуць.
Анёлы трызьняць раем.

Тут спакоем
Сена сноў растрэсена.
Кнігаўка
Над кнігай лёсу плача.
— Рым! —
Рыпіць расчулена бярэзіна.
Шэпча стрыманы чарот:
— Ву – ша – ча...

*Рым — Вушача*
*Ліпень — жнівень 2004 г.*



Рымскі храм сьвятых Сяргея і Вакха ў якім ўшаноўваецца
старажытная Ікона Маці Божай Жыровіцкай
(якую італьянцы называюць *Madonna del Pascolo*).



Ля Сьвятога Пятра...

Бог стварыў чалавека па вобразу й падабенстве Сваім, кожны вернік носіць у сэрцы сваім Усявышняга. Кожнаму Ўсятрымца ўсяго жывога й існага бачыцца ва ўяве па-свайму. Бог шматаблічны і вечны.

Госпад усіх нас любіць, усіх нас бароніць, усіх нас церпіць. Але ў Яго ёсць і абраньнікі, якім дазволена набліжацца да сходцаў нябеснага пасаду.

Нябёсы дазволілі мне, сьціпламу ўніяту, бачыць і чуць, сказаць словы падзякі аднаму з абраньнікаў Усявышняга ў Вечным горадзе.

Ян Павал II быў незямным і зямным чалавекам, асобай, якая Боскім Словам вызваляла душы людзкія з д'ябальскага палону ўсіх праяваў.

Дух трымаў яго, калі Папа Рымскі нёс крыж свой пакорліва й непахісна.

У тыя сьвятыя хвіліны, калі чуў я Папу, калі перадаваў яму ягоны «Рымскі трыпціх» у сваім перакладзе на матчыну мову, калі цалаваў ягоны пярсьцёнак, мне нясьмела падалося, што бачу адно з абліччаў Усявышняга.

І рэшту веку свайго жыцему тымі хвілінамі, якімі быў блізка каля Яна Паўла II.

У смутныя дні разьвітаньня з Папам склаліся ў мяне радкі, якія кладу ў абножжа дамавіны нябеснага Пасланьніка.



Тут спачывае цела, а душа...

Бог пасылае верных,
Каб яны
Пераканалі душы ласкай шчырай.
Мальбы недатыкальныя званы
Дабраслаўляюць шлях у вечны вырай.

Бог давярае мужным
Весьці люд
У непарушную гасподу веры.
Кут у гасподзе вольны для пакут,
Засланы стол для Тайнае Вячэры.

Бог выбірае мудрых,
Каб вякам
Было зь кім памаўчаць
І ўзважыць скруху.
І па жарсьцьве прыступна ступакам
Ступаць за далягляд,
Дзе сьветла духу.

Пасланьнікі нябесныя,
Ад іх
Вядзе адлік бясконцасьць маладая.
Вяльмуе Бог абраньнікаў сваіх.
Бязь іх
На сэрцы сьвету халадае...

***Вечная памяць Яну Паўлу ІІ.***
***Сустрэнь яго, Божа!***

* * *

Нарадзіўся Дзядзька Рыгор — Рыгор, сын Іванаў, Барадулін 24 лютага 1935 года на Вушаччыне, на хутары Верасоўка ў патомнай уніяцкай сям'і.

Працаваў у рэдакцыях газэт і часопісаў, быў прэзідэнтам беларускага ПЭН-цэнтра.

Выдаў звыш 70-ці зборнікаў у розных галінах літаратурнай дзейнасьці.

Шмат займаецца перакладамі паэзіі зь іншых моваў на родную, у тым ліку пераклаў і «Трыпціх Рымскі» Яна Паўла II.

* * *

Выдаўцы гэтае кнігі хацелі даць чытачу выключна тэксты Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

Таму ў кнізе няма ні ўводзінаў, ні пасьляслоўя. Іх замяняюць творы самога паэта.

# ЗЬМЕСТ

Рэлігійная паэзія

Барадулін Рыгор Іванавіч

# Рымскі дыпціх

Адказны за выданьне Баўтовіч Міхась
Рэдактар Андросік Яўген
Кампутарнае макетаваньне Каменева Вольга
Дызайн  Андрэева Юлія

Падпісана ў друк 02.04.06. Фармат 70х100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Гарнітура Petersburg. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,5. Ул.-выд. арк. 0,5.
Наклад 200. Замова N .

Выдавецтва Грэка-каталіцкая парафія сьвятапакутніка Язафата ў Полацку.
Ліцэнзія ЛІ № 02330/0133378 ад 29.06.2004.
211410, Полацк, вул. Навасёлаў, 70.
Паліграфічнае выкананьне
Сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/0056748 ад 22.01.04 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.